



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

18 снежня 2020 года №51 (1338) 18+






# Жыццё без дыскрымінацыі

## У школе-інтэрнаце ў Маладзечне правялі серыю трэнінгаў для падлеткаў

старонка 18

Сямікласніца Эвеліна Карпенка выконвае практыкаванне на трэнінгу Аксаны Дзьякавай.

Фота Ірыны ТАРХАН.

ISSN 1991–7155




Адсканучйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



## У гімназістаў – першае месца ў краязнаўчым конкурсе

**ВІЛЕЙКА**

Сярод пераможцаў нацыянальнага краязнаўчага конкурсу «Падарожжа па малой радзіме» – вучні з гімназіі №1 «Логас».

Дыпломам першай ступені Міністэрства адукацыі адзначыла працу вілейчукоў – **Дзяніса Андрыеўскага, Паліны Казінец, Кірыла Пражніка і Анастасіі Лях**.

У фінале конкурсу, які праходзіў дыстанцыйна, удзельнікі прадставілі інфармацыйныя стэнды, якія расказваюць пра вядомых асоб краю, пра важныя гістарычныя і культурныя аб'екты раёна, паведамляюць у Мінаблвыканкаме.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У нядзелю ў ЦРБ з траўмамі звярнуліся пяць пацыентаў

**ВІЛЕЙКА**

Як расказалі карэспандэнту вілейскія медыкі, ад пачатку снежня з галалёднымі траўмамі ў Вілейскую ЦРБ звярнуліся 12 чалавек.

Пяць з іх – а гэта амаль палова – атрымалі траўмы за апошнія суткі. Сярод пашкоджанняў – пераломы і расцяжэнні.

Нагадаем, што ў канцы мінулага тыдня і ў выхадныя ў рэгіёне быў галалёд.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Кірмаш падарункаў і пачастункаў будзе працаваць у Ашмянах

**АШМЯНЫ**

23, 24, 29 і 30 снежня ў Ашмянах правядуць кірмаш падарункаў і пачастункаў. Ён будзе працаваць сумесна з кірмашом ялінак.

Месца правядзення: гарадскі сквер (плошча 17 Верасня). Пачатак мерапрыемства ў 10:00.

Гасцей і жыхароў горада чакае святочны асартымент прадукцыі, прысмакі, кулінарныя і кандытарскія вырабы, сувенірная прадукцыя і вырабы ручной работы навагодняй тэматыкі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Як будуць працаваць бальніцы і паліклінікі ў рэгіёне ў святы

Міндароўя зацвердзіла графік работы бальніц і паліклінік у калядна-навагодні перыяд.

25 снежня, 1 і 7 студзеня праца будзе арганізаваная па графіку святочнага дня.

26 снежня, 2, 8 і 9 студзеня – як па суботах.

Для 27 снежня, 3 і 10 студзеня будзе дзейнічаны графік выходнага дня.

16 студзеня (гэта субота, перанос выхаднога на 8-га студзеня) бальніцы і паліклінікі будуць працаваць, як у будні дзень.

**Міністэрства аховы здароўя.**

## Лукашэнка паабяцаў, што бальніцы ў Маладзечне нададуць асаблівую ўвагу

**МАЛАДЗЕЧНА**

8 снежня Аляксандр Лукашэнка наведаў Стаўбцоўскую ЦРБ.

Падчас сустрэчы з галоўным доктарам ён адзначыў, што цяпер асаблівая ўвага будзе надавацца развіццю міжраённых бальніц. Такіх у Мінскай вобласці чатыры: у Барысаве, Маладзечне, Салігорску і Слуцку.

– Мы хочам з навукова-практычных цэнтраў Мінска, з абласных бальніц многія аперацыі перанесці ў міжраённыя бальніцы, і раённыя падцягваць, – сказаў ён.

**Паводле БелТА.**

## Ільянская школа атрымала статус «Зялёная школа» і дыплом другой ступені

**ВІЛЕЙКА**

Пра гэта расказалі ў адміністрацыі школы.

Для атрымання такога статусу і дыплома школа павінна была прадставіць справаздачу пра тое, як у ёй рэалізуецца праект «Зялёная школа».

Ахвотныя атрымаць статус выконваюць заданні па шасці кірунках – біяразнастайнасць, энергазберажэнне, водазберажэнне, абыходжанне з адходамі, інфармацыйна-экалагічныя мерапрыемствы, якасць атмасфернага паветра.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Зладзяць шэсце Дзядоў Марозаў і Снягурак

**ВАЛОЖЫН**

24 снежня зладзяць святочныя мерапрыемствы ў Валожыне, на плошчы Свабоды.

Тут запланавалі выставу-продаж навагодніх сувеніраў і святочнае шэсце Дзядоў Марозаў і Снягурак.

Пачатак у 15:00.

**Аддзел інфармацыі.**



Сяргей Ганчар.

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

# Пайшоў з жыцця гісторык і журналіст Сяргей Ганчар

**ВІЛЕЙКА**

**13 снежня заўчасна пайшоў з жыцця гісторык, краязнаўца, журналіст, былы дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея Сяргей Ганчар.**

Сяргей нарадзіўся ў Рабуні. У 1998 годзе скончыў вілейскую школу №4 (цяпер гімназія №2), пазней – Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры, аспірантуру па спецыяльнасці «Культуралогія», акадэмію кіравання пры Прэзідэнце.

> **Аўтар шматлікіх публікацый па гісторыі Вілейшчыны, распрацоўшчык музейна-адукацыйных праграм, культурна-мастацкіх праектаў.**

Дзякуючы яму ў музеі некалькі гадоў праводзіцца абрад вілейскага народнага вяселля «Горка – па-беларуску», які ладзіцца ў музеі ў беларускай хатцы і на культурна-турыстычным аб'екце «Вілянін хутар».

> **Падчас кіравання Сяргея Ганчара Вілейскі краязнаўчы музей некалькі разоў станавіўся пераможцам нацыянальных конкурсаў у рамках рэспубліканскага форуму «Музеі Беларусі».**

Удзельнічаў у грамадскім жыцці Вілейшчыны, іграў у народным тэатры. Апошнія гады быў галоўным рэдактарам вілейскай раённай газеты «Шлях перамогі».

Сяргей Ганчар неаднойчы станавіўся героем нашых публікацый. А ў 2015 годзе разам з журналісткай **Настассяй Роўдай** быў вядучым на ўрачыстасці, прысвечанай 20-годдзю «Рэгіянальнай газеты».

Сяргея пахавалі 15 снежня на вясковых могілках у Рабуні. Яму было 39 год. Засталіся жонка і маленькая дачка.

Калектыў «Рэгіянальнай газеты» прыносіць шчырыя спачуванні родным і блізкім Сяргея.

### Вольга Коласава: Здавалася, у яго не бывае дрэннага настрою

Пра Сяргея Ганчара расказала старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Вольга Коласава**:

– Сяргей Мікалаевіч прыйшоў у музей у 2007 годзе навуковым супрацоўнікам. А ў 2008 стаў дырэктарам. На гэтай пасадзе працаваў да 2016 года.

> **Канешне, праца ў музеі была яго. Аддаваў ёй усяго сябе, укладваў душу.**

Кампетэнтны, харызматычны, дыпламатычны, творчы. Заўсёды ўмеў выслухаць. Шмат меў уласных ідэй, прыслухоўваўся да ідэй супрацоўнікаў. Сяргей Мікалаевіч любіў усіх, і ўсе любілі яго.

Ён заўсёды быў з шырокай, шчырай усмешкай. Падавалася, што ў нашага дырэктара ніколі не бывае дрэннага настрою.

Гісторыю роднага краю, відаць, любіў яшчэ з дзяцінства. А падчас працы ў экспедыцыях у яго проста гарэлі вочы.

> **Калі Сяргей Мікалаевіч пайшоў працаваць у газету, па-ранейшаму шмат рабіў для захавання гісторыі роднага краю, не губляў сувязяў з музеем. Па публікацыях было бачна, як галоўны рэдактар раённай газеты любіць гісторыю.**

Быў, працаваў... Вельмі цяжка казаць пра Сяргея Мікалаевіча ў прошлым часе. Ён быў сапраўдным патрыётам Беларусі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота чытача.

Галоўная ялінка ў Вілейцы выглядае вось так.

# Навагоднія ялінкі патаннеюць

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта карэспандэнту расказала намеснік дырэктара Вілейскага доследнага лясгаса Таццяна Анішчык.**

30 лістапада мы паведамлялі пра кірмашы ялінак і цэны на іх у Вілейцы. Днямі, згодна з дакументам, прынятым у лясгасе, цэны на ялінкі стануць ніжэйшыя за тыя, пра якія заяўлялі раней.

– Вырашылі зрабіць ялінкі больш таннымі. Магчыма, людзі адчуюць атмасферу свята, – адзначыла Таццяна Анішчык.

Месцы і даты продажу застаюцца ранейшымі. Кірмашы ялінак разгорнуцца на цэнтральнай плошчы, каля завода «Зеніт», на вуліцы Незалежнасці, каля «Еўраопта», і ў мікраёне Паўночным, каля «Дабранома». Таксама ялінкі будуць прадавацца ва ўсіх лясніцтвах. Запрацуюць кірмашы ад 21 снежня.

| Вышыня ялінкі | Ранейшая цана | Колькі будзе каштаваць цяпер |
|---|---|---|
| Да метра | 13 рублёў | 9 рублёў 60 капеек |
| Ад метра да двух | 16 рублёў | 11 рублёў 70 капеек |
| Ад двух да трох | 22 рублі | 13 рублёў 80 капеек |

Некалькі лічбаў для параўнання.

Акрамя таго, лясгас праводзіць акцыю «Захавай сімвал свята». Пры пакупцы ялінкі ў кадцы, кожны атрымае памятку па доглядзе за дрэвам.

– Такую ялінку можна ўпрыгожыць да Новага года, а пасля свят пакінуць на балконе, каб вясной высадзіць у грунт, – расказала намеснік дырэктара. – Летась ялінак у кадках прадалі каля 70.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## За незаконна высечаную ялінку вінаватага чакае штраф

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету нагадвае, што заканадаўствам Рэспублікі Беларусь забараняецца самавольная, без дазвольных дакументаў, высечка і нарыхтоўка дрэў, у тым ліку елкі і сасны.

Хутка Каляды і Новы год. Па-ранейшаму сімвалам свят з'яўляецца навагодняя ялінка. Але варта памятаць, што за незаконную высечку дрэў вінаваты панясе адказнасць.

Згодна з часткамі 1, 2 і 4 артыкула 15.22 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, вінаватага чакае штраф. Для фізічных асоб – ад 1 350 рублёў, для індывідуальных прадпрымальнікаў – да 5 400, а для юрыдычных – да 8 100 рублёў.

Акрамя гэтага парушальніку прыйдзецца пакрыць шкоду, прычыненую навакольнаму асяроддзю, згодна з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24.06.2008 №348.

Навагоднюю дрэўца сёлета можна будзе набыць ад 19 снежня ва ўсіх лясніцтвах Маладзечаншчыны, а ад 21 – на ёлачных кірмашах горада.

**Аляксандр БЯЛЬКО, намеснік начальніка Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

## Ад студзеня 2021 года павысяць заробкі работнікам адукацыі

Міністэрства адукацыі прыняло пастанову №286 ад 25 лістапада 2020 года «Аб змяненні пастановы Міністэрства адукацыі №71», якую прымалі летась.

Гэтай пастановай прадугледжана, што ад 1 студзеня 2021 года ў рамках рэалізацыі даручэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па павышэнні заробкаў нізкааплатных катэгорый работнікаў устанаўліваецца надбаўка:

- выхавальнікам дашкольнай адукацыі і памочнікам выхавальніка у памеры 10 працэнтаў ад акладу;

- для рабочых і служачых арганізацый сферы адукацыі, пасады якіх з'яўляюцца агульнымі для ўсіх відаў эканамічнай дзейнасці (рабочыя, прыбіральшчыкі, дворнікі, вартаўнікі, інжынеры, юрысты і інш.) уводзіцца базавая даплата да мінімальнай заработнай платы, якая разлічваецца як розніца паміж памерам мінімальнай заработнай платай і сумай акладу, надбавак за стаж працы ў бюджэтных арганізацыях і за працу па кантракце. Выплата работніку базавай даплаты не выключае ўсталяванне яму іншых стымулюючых і кампенсавальных выплат. Прэмія і іншыя стымулюючыя выплаты будуць выплачвацца звыш мінімальнай заработнай платы;

- бацькам-выхавальнікам дзіцячага дома сямейнага тыпу на перыяд камплектавання выхаванцамі устанаўліваецца даплата за складанасць выкананай працы пры наяўнасці да пяці дзяцей у памеры 40% ад базавай стаўкі (цяпер надбаўкі няма);

- кіроўцу аўтобуса, які працуе ў штаце школы, даплата павялічваецца ад 50 да 100%.

**Паводле Міністэрства адукацыі.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**38 541**

столькі навагодніх дрэў прадалі на Мінщчыне ў 2019 годзе

Паводле Мінлясгаса.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 10.12 | 17.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5482 | **2.5249** |
| Еўра | 3.0928 | **3.0744** |
| Злоты, 10 | 6.9509 | **6.9496** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4775 | **3.4403** |
| Грыўня, 100 | 9.0958 | **9.1003** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **9.12** | **16.12** |
| Еўра | 3.0500/3.1500 | **3.0200/3.1200** |
| Долар ЗША | 2.5000/2.6000 | **2.4800/2.5700** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 9.12 | 16.12 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,96 | **23,96** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,10 | **3,10** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,87 | **7,87** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,70 | **4,70** |
| Селядзец, 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 17,80 | **17,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | **2,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,40 | **3,40** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,50 | **5,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,30 | **2,10** |
| Агуркі, 1 кг | 3,90 | **4,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 7,50 | **6,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,45 | **0,40** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,60** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,90 | **1,90** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 2,90 | **5,50** |
| Перац, 1 кг | 8,50 | **6,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **5,90** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Авакада, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | **2,60** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Масла, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## Выпіваў з незнаёмым і страціў амаль дзве тысячы рублёў

**АШМЯНЫ**

6 снежня 47-гадовы жыхар Ашмянаў распіваў спіртное з раней незнаёмым яму мужчынам. Алкаголь скончыўся, і мужчыны пайшлі за дабаўкай. Незнаёмы завёў мясцовага жыхара не ў краму, а ў пад'езд жылога дома, дзе, па яго словах, можна было па даступнай цане знайсці алкаголь.

Сабутэльнік папрасіў у мясцовага жыхара дзесяць рублёў на спіртное. Мужчына не змог знайсці неабходную купюру і даў невядомаму 1700 рублёў. Ён папрасіў, каб той узяў толькі дзясятку, а астатнее вярнуў назад.

Аднак незнаёмец забраў усе грошы, а свайго таварыша выштурхнуў з пад'езда, зачыніў дзверы з дамафонам і адправіўся ў кватэру.

Праз некаторы час пацярпелы паведаміў пра інцыдэнт у Ашмянскі РАУС. У ходзе правядзення аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў праваахоўнікі высветлілі асобу падазраванага. Ім аказаўся 41-гадовы раней судзімы жыхар Ашмянаў.

Мужчына паспеў патраціць амаль усе грошы. Пры ператрусе ў яго знайшлі толькі 70 рублёў. Цяпер фігурант затрыманы, а яго дзеянням далі прававую ацэнку.

**Паводле УУС Гродна.**

## Аўтамабіль збіў жанчыну без флікера

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пра ДТЗ расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ **Дыяна Галуза**.

– 11 снежня, у 7:35, 21-гадовы маладзечанец, кіруючы «Фольксвагенам», наехаў на пешахода – 47-гадовую жыхарку Маладзечаншчыны. Кіроўца паварочваў налева з вуліцы Валынца на Віленскую ў кірунку Чарняхоўскага на зялёны сігнал. Тут ён наехаў на жанчыну, якая пераходзіла дарогу па рэгуляваным пешаходным пераходзе злева направа.

У пацярпелай – вывіх пляча. Яе не шпіталізавалі. Па словах Дыяны Галузы, пацярпелая жанчына была без флікера.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Перакулілася машына. Пацярпелі кіроўца і пасажыр

**АСТРАВЕЦ**

12 снежня каля сямі раніцы на шостым кіламетры аўтадарогі Гоза-Астравец-Ашмяны перакуліўся аўтамабіль БМВ.

Устанавілі, што 30-гадовы кіроўца на прамым участку дарогі пры абгоне не справіўся з кіраваннем, з'ехаў у левы па ходзе руху кювет і перакуліўся.

У выніку ДТЗ пацярпелі кіроўца і пасажырка БМВ. Абодва ўдзельнікі аўтаавaрыі атрымалі траўмы рознай ступені цяжкасці. Іх шпіталізавалі ў Астравецкую бальніцу.

Ні кіроўца, ні пасажыр не былі прышпіленыя рамянямі бяспекі. Правы кіравання жыхар горада Ашмяны пазбаўлены ў верасні 2019 на тры гады, а на машыне былі тры летнія шыны і адна зімовая.

Па факце ДТЗ прызначылі праверку.

**Паводле УУС Гродна.**

## Работнік прадпрыемства скраў грошы ў калегі

**ВАЛОЖЫН**

У Валожынскі РАУС звярнуўся 28-гадовы жыхар Ракава і паведаміў, што ў яго скралі грошы. Калі канкрэтна, мужчына растлумачыць не мог.

У барсетцы ў яго ляжала некалькі купюр па 100 долараў. Пераапранаючыся ў спецвопратку, ён пакідаў сумку ў гардэробе. Шафкі не замыкаліся. Перыядычна мужчына правяраў грошы, але не пералічваў. У той дзень пацярпеламу здалося, што купюр замала, і ў выніку ён недалічыўся трохсот долараў. Мужчына паведаміў пра знікненне ў міліцыю.

Пасля размовы з супрацоўнікамі прадпрыемства аператыўнікі выказалі здагадку, што скрасці грошы мог 23-гадовы супрацоўнік. Раней той ужо прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за маёмасныя злачынствы. Малады чалавек у дзень меркаванага крадзяжу пайшоў на бальнічны. Па месцы рэгістрацыі яго не засталі. Па словах сваякоў, ён адправіўся ў Мінск да сваёй дзяўчыны, але дзе яго шукаць, ніхто не ведаў.

Калі хлопца знайшлі, у крадзяжы ён прызнаўся. Як аказалася, грошы з барсеткі малады чалавек выкрадаў двойчы. Спачатку выцягнуў сотню, а калі сыходзіў на бальнічны, прыхапіў яшчэ дзве. На прадпрыемстве ён працаваў часова, з бальнічнага вяртацца ўжо не збіраўся. Выкрадзеныя грошы паспеў патраціць – аплаціў штраф, наняў кватэру ў Мінску, а на апошнія вырашыў купіць сваёй дзяўчыне у падарунак чаравікі, – распавялі ў ведамстве.

У цяперашні час хлопец затрыманы і знаходзіцца ў ГЧУ.

**Паводле БелТА.**

# Рыбак захацеў праверыць моц лёду на рацэ Малька

## Лёд аказаўся нетрывалым

**АСТРАВЕЦ**

**8 снежня ў 15:28 у службу 101 паступіла паведамленне аб тым, што ў рацэ Малька ў аграгарадку Малі Астравецкага раёна тоне чалавек.**



Фота з сайта МНС.

Рака Малька, дзе ледзь не патануў рыбак.

Праз некалькі хвілін ратавальнікі прыбылі да месца здарэння. Высветлілася, што старшыня мясцовага сельгаспрадпрыемства **Эдуард Садоўскі**, галоўны заатэхнік **Віктар Алекса** і дырэктар філіяла прадпрыемства па вытворчасці малочных прадуктаў **Ігар Варанішча**, праязджаючы міма вадаёма, звярнулі ўвагу, што ў рацэ, прыкладна ў пяці метрах ад берага, боўтаецца мужчына.

Ілістае дно не давала яму магчымасці выбрацца. Выкарыстоўваючы вяроўку, якая была ў аўтамабілі пацярпелага, мужчыны дапамаглі яму.

Рака Малька ў месцы здарэння глыбінёй 1-2 метры, пакрытая лёдам таўшчынёй каля аднаго да трох сантыметраў.

Выратаваны – 65-гадовы жыхар Астраўца – вырашыў праверыць моц лёду для зімовай рыбалкі. Мужчыну шпіталізавалі ў бальніцу з дыягназам «агульнае пераахаладжэнне». У ледзяной вадзе ён прабыў каля пятнаццаці хвілін.

**Паводле МНС.**

## Пачалася акцыя «Бяспечныя канікулы»

**Ад 14 снежня 2020 да 10 студзеня 2021 года ДАІ Мінскай вобласці сумесна з іншымі службамі міліцыі праводзіць комплекс прафілактычных мерапрыемстваў «Бяспечныя канікулы».**

У гэтым годзе ў параўнанні з мінулым на Міншчыне назіраецца рост аварый з непаўналетнімі. За 11 месяцаў 2020 года з удзелам дзяцей зарэгістравана 87 ДТЗ, у выніку якіх сем непаўналетніх загінулі, 93 атрымалі траўмы. За аналагічны перыяд у 2019 годзе ў 55 ДТЗ загінула двое дзяцей, 64 – атрымалі траўмы рознай ступені цяжкасці. Па віне саміх дзяцей адбылося 30 ДТЗ (у 2019 годзе – 17).

### Дзеці-пешаходы

З удзелам дзяцей-пешаходаў зарэгістравана 36 ДТЗ, у выніку якіх двое дзяцей загінула, 36 атрымалі траўмы. Большасць ДТЗ з дзецьмі-пешаходамі адбылося на нерэгуляваных пешаходных пераходах. Але часам бестурботнасць дзяцей, выхад на праезную частку, не пераканаўшыся ў бяспецы, няўважлівасць, дзіцячае свавольства становяцца прычынамі няшчасных выпадкаў на дарозе. Яшчэ адна прычына – недысцыплінаванасць кіроўцаў, якія не выконваюць патрабаванні Правілаў на нерэгуляваных пешаходных пераходах і не даюць перавагі пешаходам.

29 кастрычніка ў 18:15 у Маладзечне кіроўца на «Таёце-Лэнд Крузер» наехаў на непаўналетняга пешахода, які пераходзіў праезную частку дарогі па пешаходным пераходзе. У выніку ДТЗ 15-гадовы вучань дзявятага класа з цялеснымі пашкоджаннямі шпіталізаваны.

Згодна з артыкулам 18.14 часткі 6 КаАП Рэспублікі Беларусь, за невыкананне кіроўцам патрабаванняў дарожных знакаў або разметкі, не даванні перавагі ў руху пешаходам надыходзіць адміністрацыйная адказнасць – штраф ад 27 да 1350 рублёў.

Пешаходы маюць перавагу на нерэгуляваным пешаходным пераходзе, таму абавязаныя пераканацца ў адсутнасці машын, паглядзеўшы па баках, а таксама пераканацца, што кіроўца вас прапускае. А ўжо потым пераходзіць праезную частку дарогі. Перш чым выходзіць з-за прыпаркаваных аўто, трэба пераканацца, што паблізу не едзе машына.

### Дзеці-пасажыры

За названы перыяд на Міншчыне адбылося 34 ДТЗ з удзелам дзяцей-пасажыраў, у якіх пяць дзяцей загінулі, 39 атрымалі траўмы. З агульнай колькасці ДТЗ з непаўналетнімі пасажырамі 24 дзяцей перавозілі з парушэннямі Правілаў дарожнага руху. Многія дарослыя ўдзельнікі дарожнага руху пры перавозцы дзяцей у аўтакрэслах, бустарах, спецыяльных падушках не прышпільваюць іх.

### ДАІ нагадвае

У легкавым аўтамабілі, абсталяваным рамянямі бяспекі, павінна выкарыстоўвацца дзіцячая ўтрымальная прылада, якая адпавядае вазе і росту дзіцяці. Дапускаецца перавозіць дзяцей ва ўзросце да 12 гадоў без прылады ў выпадку, калі рост дзіцяці перавышае 150 сантыметраў, а таксама ў таксі. Больш падрабязна аб правілах перавозкі дзяцей чытайце ў пункце 178 ПДР.

### Рэкамендацыі дарослым

Калі ведзяце дзіця за руку па ўзбочыне дарогі насустрач руху або па тратуары – дэманструйце сваю дысцыплінаванасць. Дзіця трымайце далей ад праезнай часткі. Карысным будзе распавесці яму падчас хадзьбы пра небяспеку, якую нясе ў сабе дарога.

Не выходзьце з дзіцем з-за машын, якія стаяць на ўзбочыне, не агледзеўшы папярэдне дарогу.

Перш чым пераходзіць дарогу, спыніцеся, паглядзіце па баках. Выходзячы на праезную частку, спыніце размовы. Ні ў якім разе не пераходзьце дарогу на чырвонае святло. Пераходзьце дарогу толькі ў месцах, пазначаных дарожным знакам «Пешаходны пераход».

З аўтобуса выходзьце першымі. У адваротным выпадку дзіця можа зваліцца або пабегчы на праезную частку дарогі.

Ні на хвіліну не пакідайце без нагляду дзіця, нават калі яно знаходзіцца ў двары агароджанага дома.

Не дазваляйце дзецям гуляць паблізу дарогі.

Дамажыцеся таго, каб дзіця, знаходзячыся паблізу або на праезнай частцы, не размаўляла па тэлефоне і не слухала музыку ў навушніках.

**Сяргей БАРТОШ, АДАІ Маладзечна.**

# «Сам здзівіўся, што так хораша выйшла»

**У суботу, 12 снежня, маладзечанцы заўважылі каля Цэнтральнай плошчы скульптуру скрыпкі, зробленую з лёду. Аказалася, што зрабіў скульптуру Іван Карпіцкі, і гэта яго першая праца.**

Івану 32 гады, ён вырас у Маладзечне, скончыў чацвертую школу. На пытанне, ці хадзіў у мастацкую школу, жартуе: «Ды я і ў звычайную не асаблівa». Затое яго творчыя праекты і цяпер памятаюць былыя суседзі.

У дзяцінстве неяк зрабіў два домікі з запалак. Адзін, большы, памерам 12 на 12 сантыметраў, з акенцамі і мэбляй унутры, захаваўся. А меншы спаліў у двары. Кажа, навошта было б складаваць, калі пасля не паліць.

Прафесію малады чалавек сабе не выбіраў, тлумачыць, што паступаў туды, дзе не было патрэбы здаваць ЦТ. Атрымаў у Маладзечанскім дзяржаўным каледжы прафесію плітачніка-абліцоўшчыка. Стаў індывідуальным прадпрымальнікам, у Мінску ўкладвае плітку. У Маладзечна прыязджае да бацькоў і сяброў, а таксама парыбачыць на Палачанскіх разлівах.

**Падчас рыбалкі мужчыну зацікавіў лёд: тоўсты і празрысты адначасова. Выраршыў штосьці зрабіць з яго.**

– Калі працую, то лепш да сябе нікога не падпускаць, – расказвае Іван. – У такія моманты іншыя людзі толькі замінаюць. Тым больш, гэта была першая спроба ўвогуле зрабіць штосьці з лёду. Напэўна, мне трэба больш адзіноты, чым звычайным людзям.

Падумаў, што варта зрабіць штосьці простае, хуткае і адразу эфектнае. Таму і абраў выяву скрыпкі, каб закончыць да вечара.

– Калі выключыць эмоцыі, то гэта проста геаметрыя. Выява скрыпкі простая, гэта ж не чалавек, дзе шмат ліній.

Калі мужчына ўбачыў, што атрымалася добра, папрасіў прыехаць сябра, каб дапамагчы давезці ў Маладзечна.

– Стала шкада, што ніхто не ўбачыць, – прыгадвае Карпіцкі. – Сам здзівіўся, што так хораша выйшла. Было не сорамна, і падумаў, што скульптуру хтосьці можа ацаніць. Бо ад такой выявы можа быць дзве рэакцыі – нейтральная або спадабаецца, і тады чалавек захоча сфатаграфавацца. Супраць дакладна ніхто не будзе.

Хаця скульптура знікла на наступны дзень, фотаздымкі з ёй сярод маладзечанцаў сталі фурорам. Таму Іван плануе, што зробіць яшчэ якую-небудзь скульптуру. Цяпер шукае ідэі.

А каб дзяліцца фотаздымкамі сваіх прац, адмысловa завёў старонку ў інстаграме – karpitskii_gtf. Тут вы можаце ўбачыць працы творцы і падказаць ідэі будучых работ.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77



Фота Віктара ШАРАМЕТА.

Іван Карпіцкі са скрыпкай з лёду.




# Невероятно вкусно: как подать индейку к новогоднему столу



**Новый год всё ближе, а это значит, сейчас самое время задуматься, какие блюда будут на Вашем праздничном столе. Помимо традиционных оливье, шампанского и мандаринов новогодний стол можно разнообразить блюдами из индейки – получится очень вкусно и изысканно. Вашему вниманию – рецепты блюд из мяса этой птицы.**

## Рулет из индейки с грибами

**Ингредиенты:**
филе индейки 1 шт.
шампиньоны – 5 шт.
лук – 1 шт.
пучок петрушки – 1 шт.
лимон – 0,5 шт.
соль, перец по вкусу
паприка – 1 ч.л.
масло растительное – 2 ст. л.

**Шаг 1:** Филе индейки разрезаем на две части, отбиваем, сбрызгиваем соком лимона, отставляем в сторону и занимаемся начинкой. Обжариваем на растительном масле мелко нарезанные грибы, лук и смешиваем с петрушкой. Добавляем соль, перец по вкусу и укладываем на один край отбитой индейки.

**Шаг 2:** Сворачиваем каждый кусок рулетом, перетягиваем кулинарной нитью.

**Шаг 3:** В форму для запекания, смазанную маслом, укладываем рулеты и посыпаем их паприкой. Можно уложить рулеты на овощную подушку из лука и болгарского перца. Запекаем 45 минут при 180 градусах.

Готовые рулеты освобождаем от нитей.

Фаршированный рулет можно подавать как второе горячее блюдо, отрезая от него небольшие ломтики. Также это блюдо замечательно подойдёт в качестве холодной закуски. Какой вариант лучше – выбирать Вам.

## Индейка с апельсинами

**Ингредиенты:**
Индейка – 1 шт.
Сливочное масло – 50 г
Апельсины – 2 шт.
Бульон – 2 стак.
Мука – 3 стол.л.
Вино белое – 1.5 стак.
Горчица – 2 стол.л.
Перец черный молотый по вкусу
Розмарин – 3-4 веточки.

**Приготовление:**

**Шаг 1:** Индейку нужно хорошо промыть и снаружи, и внутри. А после обсушить.

Один апельсин очищаем от кожуры и нарезаем на четыре части. В тело индейки вкладываем нарезанные дольки апельсина и штуки 3-4 веточки розмарина. Отверстие скрепляем зубочистками или сшиваем. Ножки закрепляем. Берем форму, смазываем сливочным маслом (или растительным), кладем индейку.

**Шаг 2:** Из второго апельсина выдавливаем сок, но сначала режем его пополам. Первая половинка пойдет на тушку индейки (соком надо ее полить), вторая – на растопленное сливочное масло (50 граммов топим на плите).

В полученную масляную смесь всыпаем соль и перчик. И хорошо обмазываем всем этим тушку.

Покрываем тушку фольгой и ставим в духовку на три часа (200 градусов). Периодически проверяем птицу и обливаем ее образующимся соком.

**Шаг 3:** Бульон смешиваем с соком после поджаривания индейки (5 стол.л.), даем смеси закипеть. Вливаем вино, перемешиваем, слегка подогреваем и всыпаем муку. Все время размешивая, доводим до кипения и ждем, пока соус не загустеет. Добавляем соль, молотый перец и горчицу.

## Жаркое из индейки в горшочках

**Ингредиенты (на 2 порции):**
бедро индейки – 400 г
картофель (среднего размера) – 5 шт
морковь – 1/2 (около 60 г)
помидоры – 3-4 шт
репчатый лук – 1 шт
чеснок – 1 зубчик
чернослив – 6 шт
вода – 300 мл
соль, перец по вкусу
лавровый лист – 2 шт
рафинированное подсолнечное масло для жарки

**Приготовление:**

**Шаг 1:** Мясо нарезаем средними кусочками. Обжариваем их на сковороде, солим, перчим и по готовности выкладываем на тарелку.

**Шаг 2:** На другой сковороде обжариваем морковь и лук. Картофель чистим, моем и нарезаем крупными кусочками. Далее моем чернослив, разрезаем пополам. Тоже самое делаем с помидорами.

**Шаг 3:** Выкладываем все в горшочки. На дно кладем лавровый лист, затем равномерно распределяем обжаренное мясо, поверх мяса выкладываем картофель, затем обжаренную морковь с луком, порезанный мелко чеснок, чернослив и половинки помидоров-черри.

Затем солим воду и наливаем в каждый горшочек по 150 мл.

Закрываем горшочки крышками и ставим в разогретую до 180 градусов духовку примерно на 80 минут (ориентируйтесь на возможности своей духовки).



## Фаршированная грудка

**Ингредиенты:**
грудка индейки – 1-2 шт
помидоры – 2 шт
сыр моцарелла – 100-150 г
специи для курицы (черный перец+кориандр)
соль
зелень петрушки

**Приготовление:**

**Шаг 1:** Соль (1/2 ч.л.) и растительное масло смешиваем и получаем «специальную» помазку.

**Шаг 2:** Грудку хорошо промажем и нарежем «кармашки». Надрезы делаем наискосок, 1,5 – 2 см друг от друга.

**Шаг 3:** Помидоры нарезаем кружочками, а сыр – пластинками. В каждый кармашек, слегка присолив, вставляем по кусочку сыра и помидора. Сюда же между сыром и томатом закладываем зелень петрушки (по веточке).

Фаршированную грудку перекладываем в форму и отправляем в разогретую духовку. Запекаем при температуре 200 градусов, 25-30 минут.

**Приятного аппетита!**

**Вкусную и свежую индейку можно приобрести в магазинах «Индюшонок»**
**Адреса магазинов:**
• г. Молодечно, ул. Великий Гостинец, 67/5 ;
• г. Молодечно, ул. Великий Гостинец, 72/67;
• г. Островец, ул. К.Маркса, д. 1;
• г. Островец, ул. Восточная (возле кафе «Весна»).
Больше рецептов на сайте
**www.indeyka.by**

*Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16**


## ВІНШАВАНКА

**Васілю Аляксеевічу ТАРКАНУ з Маладзечна**



Дарагі наш таварыш і сябар!

Віншуем цябе з днём нараджэння і жадаем самага моцнага здароўя, творчых знаходак і поспехаў у грамадскай працы, любові блізкіх.

**Твае сябры.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто ў любым стане. Дорага. Т. (8-044) 5733095.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры г. Смаргонь. Т. (8-044) 7626113.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

### КУПЛЮ

• Гараж у ГБК-2. Вілейка. Т. (8-029) 2375721.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Наносім фота на квартальны каляндар — 10 рублёў. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8 «НгС», УНП 690288442. Т. (8-029) 6631595.*

• Паслугі сантэхніка. Ацяпленне. Водазабеспячэнне. Усе віды работ. ІП Трубач С.А. УНП 692250027. Т. (8-029) 7018908.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт, устаноўка, наладка газавага абсталявання 4-га пакалення на ваш аўтамабіль. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

• Свідраванне адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водаправод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік «Атлант», маразільнік, тэлевізар, пральная машына, усё б/у. Т. (8-029) 7755336.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Прадам мабільны тэлефон Meizu M8c, у добрым стане, 100 руб. Т. (8-033) 3668181.*

**Музінструмент**

• Гітара. Т. (8-029) 5019550.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Распродаж парасят кармалаў. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.*

• Свінні белыя і в'етнамскія на мяса. Парасяты в'етнамскія. Т. (8-025) 7894666.*

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8-025) 7894666.*



• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Біблію на польскай мове. Т. (8-029) 5019550.*

• Дамашняе малако. Многа. Т. (8-029) 6162240.*

• Мастацкія кнігі, аддрукаваныя ў 1978-1980, Роберта Льюіса Стывенсана «Востраў скарбаў», «Чорная страла»; Луі Бусенара «Выкрадальнікі брыльянтаў» Т. (8-033) 6407558. Салагуб А.А.

### АДДАМ

• Аддам дарма тумбу з люстэркам (трэльяж) карычневага колеру, паліраваная, б/у. Т. (8-029) 6458473.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Абшыўка балконаў (ПВХ, вагонка, МДФ) унутры і звонку. Т. (8-029) 7080220.*

• Шукаю работу. (8-029)5019550.*




**ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР**
«РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» –
**да 16:00 серады**
Аддзел рэкламы:
(8-0176) **53-78-04**,
**53-78-06** (факс),
(8-029) **676-84-20, 573-28-47**
E-mail: **reklama@rh.by**

**Рэклама ў «РГ»**
8 (0176) **53-78-04**
**reklama@rh.by**

# Як будуць хадзіць гарадскія і прыгарадныя аўтобусы ў святочныя дні

**У сувязі з пераносам працоўных дзён аўтобусы ў Маладзечне і раёне будуць хадзіць наступным чынам, паведамляе Маладзечанскі аўтапарк.**

**Гарадскія маршруты**

| | |
|---|---|
| 24 снежня | па графіку рабочага дня |
| 25-27 снежня | па графіку выхаднога дня |
| 28-31 снежня | па графіку рабочага дня |
| 1-3 студзеня | па графіку выхаднога дня |
| 4-6 студзеня | па графіку рабочага дня |
| 7-10 студзеня | па графіку выхаднога дня |
| 11-16 студзеня | па графіку рабочага дня |
| 17 студзеня | па графіку выхаднога дня |
| 18 студзеня | па графіку рабочага дня |

**Прыгарадныя маршруты**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 24 снежня | па графіку чацвярга | 6 студзеня | па графіку серады |
| 25 снежня | па графіку суботы | 7 студзеня | па графіку суботы |
| 26 снежня | па графіку суботы | 8 студзеня | па графіку суботы |
| 27 снежня | па графіку нядзелі | 9 студзеня | па графіку суботы |
| 28 снежня | па графіку панядзелка | 10 студзеня | па графіку нядзелі |
| 29 снежня | па графіку аўторка | 11 студзеня | па графіку панядзелка |
| 30 снежня | па графіку серады | 12 студзеня | па графіку аўторка |
| 31 снежня | па графіку чацвярга (адмяняецца рэйс па маршруце №239–З (Чысць – Уша), адпраўленне ад прыпынку «Чысць» у 21:35 і ад станцыі Уша – у 22:40) | 13 студзеня | па графіку серады |
| 1 студзеня | па графіку суботы (усечаныя ранішнія рэйсы) | 14 студзеня | па графіку чацвярга |
| 2 студзеня | па графіку суботы | 15 студзеня | па графіку пятніцы |
| 3 студзеня | па графіку нядзелі | 16 студзеня | па графіку пятніцы |
| 4 студзеня | па графіку панядзелка | 17 студзеня | па графіку нядзелі |
| 5 студзеня | па графіку аўторка | 18 студзеня | па графіку панядзелка |

# Аб'явілі пра закрыццё межаў, затрымалі цэлы клас гімназістаў

## Прыгадваем, што адбывалася ў Беларусі і свеце за апошні тыдзень

**Прапануем вам агляд гучных падзей, якія адбыліся ў нашай краіне і ў свеце на мінулым тыдні.**

### Зафіксавалі першую смерць ад каронавіруса сярод лідараў дзяржаў

Такой ахвярай стаў прэм'ер-міністр афрыканскай дзяржавы Эсваціні (былы Свазіленд) **Мандвула Амброўз Дламіні**. Каронавірус у 52-гадовага палітыка знайшлі яшчэ ў сярэдзіне лістапада, аднак тады заяўлялася, што ніякіх сімптомаў захворвання ў яго не назіраецца і ён пачуваецца добра. У пачатку снежня стан Дламіні рэзка пагоршыўся, і яго былі вымушаныя даставіць у бальніцу. Там прэм'ер правёў каля двух тыдняў, пасля чаго памёр.

### Міністр Піневіч: Кавід будзе з намі да чэрвеня

Ва ўсіх рэгіёнах мы выйшлі на пік пнеўманій, адзначыў міністр.

Пры гэтым ён звярнуў увагу на тое, што, нягледзячы на высокую нагрузку на сістэму аховы здароўя з-за пандэміі, у краіне не перасталі аказваць спецыялізаваныя віды медыцынскай дапамогі.

Міністр таксама заўважыў, што пандэмія не скончыцца заўтра: другая хваля пачне спадаць толькі да лета.

> – Як мінімум, да чэрвеня мы будзем жыць з высокай інтэнсіўнасцю захворвання, – адзначыў ён.

### У Смалявічах затрымалі вучняў 11 класа, якія вярталіся з рэпетыцыі

13 снежня ў Смалявічах міліцыя затрымала ўсіх вучняў 11 класа гімназіі, якія гуртам ішлі па цэнтральнай вуліцы з рэпетыцыі выпускнога вальса.

> Хлопцаў пасадзілі за краты, дзяўчат на лаўкі, пераганялі з буса ў бус, прывезлі ў РАУС.

У хуткім часе школьнікаў адпусцілі. У МУС пракаментавалі, што пасля разбору міліцыянеры папрасілі прабачэння ў школьнікаў і адпусцілі іх дамоў. Чаму затрымалі дзяцей, не тлумачаць.

### Супраць дырэктара хоспіса з Гродна завялі крымінальную справу

Супраць дырэктара гродзенскага хоспіса **Вольгі Вялічкі** завялі крымінальную справу. Яе падазраюць у злоўжыванні спонсарскай дапамогай. Жанчыне пагражае да дзесяці год пазбаўлення волі.

Праблемы пачаліся пасля ўдзелу Вольгі ў пратэстах. Яна адседзела суткі ў ізалятары і атрымала штраф.

### Швейцарыя замарозіла актывы Лукашэнкі і забараніла яму ўезд у краіну

Штрафныя меры прадугледжваюць замарозку актываў у Швейцарыі, а таксама забарону на ўезд у краіну, гаворыцца ў заяве, апублікаванай на сайце Федэральнага савета Швейцарыі. Разам з **Аляксандрам Лукашэнкам** пад санкцыі трапіў яго сын **Віктар**, які займае пасаду памочніка прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы. Акрамя таго, у санкцыйны спіс уключаныя кіраўнік КДБ Беларусі **Іван Церцель**, кіраўнік Упраўлення МУС **Раман Мельнік,** прэс-сакратар Лукашэнкі **Наталля Эйсмант**, старшыня Канстытуцыйнага суда ўраджэнец Вілейкі **Пётр Міклашэвіч** і іншыя. Так урад Швейцарыі адрэагаваў на рэпрэсіі, што адбываюцца ў Беларусі.

### Ад 20 снежня Беларусь закрывае наземныя межы на выезд

Пра гэта гаворыцца ў пастанове Савета Міністраў №705 ад 7 снежня.

> Абмежаванні будуць тычацца наземных памежных пунктаў, вылецець з Беларусі на самалёце па-ранейшаму будзе дазволена.

Выязджаць з краіны змогуць кіроўцы фур і камандзіровачныя.

Таксама будуць выпускаць тых, хто мае замежную працоўную дамову ці вучыцца за мяжой, а таксама тых, у каго ёсць дазвол на жыццё ў іншай краіне. Але ім можна будзе выязджаць не часцей, чым раз на паўгода. Наяўнасць гэтай нормы ў пастанове Саўміна №705 дае падставы думаць, што абмежаванне свабоды выезду можа быць надоўга.

**Паводле «Нашай Нівы», БелТА, pravo.by.**

# Маладзечанца абвінавачваюць у масавых беспарадках і пагрозе гвалтам міліцыянерам

**14 снежня прэс-служба Упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці паведаміла, што завяршыла расследаванне справы па двух крымінальных артыкулах.**



Гурман падчас акцыі пратэсту ўвечары на маладзечанскай плошчы.

Маладзечанца **Вадзіма Гурмана** абвінавачваюць за ўдзел у дзеяннях, што груба парушаюць грамадскі парадак і пагрозе гвалтам супрацоўнікам органаў унутраных спраў.

– Па дадзеных следства, 9 жніўня 21-гадовы жыхар Маладзечна ў стане алкагольнага ап'янення прыйшоў на плошчу, дзе людзі прымалі ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Ён выходзіў перад людзьмі, размахваў рукамі, а таксама выкрыкваў лозунгі, фразы і выразы, у тым ліку ў адрас дзеючай улады і супрацоўнікаў міліцыі.

Такім чынам, лічыць следства, Гурман спрабаваў накіраваць натоўп на агрэсіўныя дзеянні ў ходзе масавых беспарадкаў у раённым цэнтры. Следчыя сцвярджаюць, што абвінавачаны пагражаў гвалтам супрацоўнікам Маладзечанскага РАУС.

Гурману прад'явілі абвінавачанні па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса:

**ч.1 арт.342** (актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак і спалучаныя з відавочным непадпарадкаваннем законным патрабаванням прадстаўнікоў улады, пры адсутнасці прыкмет больш цяжкага злачынства);

**арт.364** (пагроза ўжываннем гвалту ў дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў з мэтай перашкодзіць яго законнай дзейнасці, з помсты за выкананне службовай дзейнасці).

Вядома, што Вадзіма Гурмана затрымалі падчас жнівеньскіх пратэсных акцый пасля выбараў. Ён сядзеў у ізалятары разам з адзінаборцам **Аляксеем Кудзіным**, якога таксама затрымалі падчас пратэстаў. Гурман атрымаў за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве 15 сутак.

Па інфармацыі праваабаронцы незарэгістраванага праваабарончага цэнтра «Вясна» **Алеся Капуцкага**, Гурмана ўзялі пад варту. Яго ў хуткім часе павінны этапаваць у СІЗА ў Жодзіне. Там ён будзе знаходзіцца да суда.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

## У Маладзечне пратэсты супраць фальсіфікацый і гвалту праходзяць у выглядзе гулянняў

**У Маладзечне пратэсныя акцыі праходзяць у фармаце гулянняў. Людзі шпацыруюць па Вялікім Гасцінцы ў адзенні з белым і чырвоным колерамі.**

Маладзечанцы праводзяць такія пратэсныя акцыі ўжо трэцюю нядзелю запар.

**Падчас гэтага на Вялікім Гасцінцы дзяжураць супрацоўнікі міліцыі ў пешым патрулі і на аўтамабілях.**

Па інфармацыі «Рэгіянальнай газеты», затрыманняў падчас гэтых акцый не адбываецца.

**Апошні марш прайшоў у нядзелю, 15 лістапада, пасля смерці Рамана Бандарэнкі.**

**Настасся УТКІНА.**




Фота Насссі УТКІНАЙ.

Супрацоўнікі міліцыі дзяжураць на маладзечанскай плошчы.

# «Гэта сістэма, дзе людзі баяцца браць адказнасць на сябе»

**Чаму ўзяць каментар у капітана нацыянальный зборнай па баскетболе прасцей, чым у каго заўгодна ў Маладзечанскім райвыканкаме? Пра гэта мы папрасілі расказаць нашага журналіста Настассю Уткіну.**



Журналіст «Рэгіянальнай газеты» Настасся Уткіна падчас мітынгу Святланы Ціханоўскай у Смаргоні ў камізэльцы «Прэса».

Настасся Уткіна прыйшла працаваць у «Рэгіянальную газету» ў чэрвені 2019 года. Менавіта яе фотарэпартажы з палітычных акцый і шэсцяў у Маладзечне вы глядзелі на старонках папяровай газеты і на нашым сайце. Расказваем пра тое, як яна трапіла ў нашу каманду і які атрымала з гэтага досвед.

### Пераезд у незнаёмы горад

У Маладзечна я пераехала, бо атрымала працу ў «Рэгіянальнай газеце». Пра горад да пераезду не ведала амаль нічога. Падчас вучобы ў Полацкім дзяржаўным універсітэце мая аднагрупніца **Даша Міхайлоўская**, якая прыехала з Краснага, расказвала пра Мола. Што ёй не падабаўся мясцовы вакзал. Карацей, інфармацыі пра сам горад і яго гісторыю ў мяне не было. Пасля сумоўя ў «Рэгіянальнай газеце» прыехала дадому і ўвесь вечар чытала на Вікіпедыі пра Маладзечна, каб мець хоць нейкае ўяўленне пра месца, дзе буду працаваць.

Пераязджаць у новае месца нескладана. Я жыла ў Полацку, Наваполацку і Мінску. Але толькі ў Маладзечне сутыкнулася з тым, што знайсці жыллё – вялікая праблема. За паўтара года тут змяніла ўжо тры кватэры. І вось зусім нядаўна, калі ў мяне зноў не стала жылля, адна маладзечанка прапанавала пажыць у яе доме. Прычым яна ведала пра мяне толькі тое, што я журналіст «Рэгіянальнай газеты». Думаю, тут паўплывала салідарнасць, якая аб'яднала беларусаў у апошнія месяцы.

Праца ў незнаёмым горадзе ўскладнялася яшчэ пошукам тэм і людзей, якія гатовыя расказаць пра нейкія праблемы і гісторыі. Калегі тут выраслі, у іх ужо ёсць сувязі, знаёмыя працуюць у розных арганізацыях. Для мяне першы год – гэта была праца над такімі знаёмствамі, над лакальнымі гісторыямі, якія ведаюць толькі маладзечанцы.

### Чаму вырашыла працаваць у «Рэгіянальнай газеце»

Так склаўся лёс, што ў мяне скончылася адпрацоўка пасля ўніверсітэта. Я жыла ў Мінску ўжо два гады, але мне не падабаўся вялікі горад, агромністая колькасць людзей на вуліцах. Я вырасла ў маленькім горадзе, да яго прывыкла, у мяне быў варыянт туды вярнуцца. Я разважала, што рабіць далей.

Якраз напісаў тэхнічны рэдактар «РГ» **Ігар Палынскі**, прапанаваў прыехаць на сумоўе. Па факце «Рэгіянальная газета» аказалася тым ідэальным варыянтам: не Мінск і вялікія магчымасці па працы з новымі тэмамі, пра якія я ніколі не пісала. Таму летам 2019 года я прыйшла працаваць карэспандэнтам у «РГ».

### Больш не спартыўны журналіст

Да «Рэгіянальнай газеты» я працавала спецыялістам па працы з грамадскасцю ў буйной аматарскай лізе па баскетболе. Гэта была мая афіцыйная праца, дзе я фатаграфавала матчы, запісвала інтэрв'ю з гульцамі, пісала разборы баскетбольных матчаў. А на фрылансе падпрацоўвала журналістам у спартыўных выданнях Беларусі: рабіла інтэрв'ю з беларускімі баскетбалісткамі, разбірала гульні нацыянальнай зборнай і беларускага чэмпіянату.

Усё маё жыццё было звязанае з баскетболам. У мяне нават універсітэцкая дыпломная работа была пра гісторыю беларускага баскетбола. Прыход у «Рэгіянальную газету» – гэта выклік, ці змагу я пісаць пра штосьці-небудзь, акрамя спорту.

Канешне, сутыкаешся з праблемамі. Спартыўная журналістыка – гэта нешматлікая супольнасць, дзе кожны адзін аднаго ведае. Цябе ведаюць спартсмены па тваіх артыкулах, ты ведаеш спартсменаў па іх выступленнях. Нашмат прасцей узяць каментар у капітана нацыянальнай зборнай па баскетболе, чым у каго заўгодна ў Маладзечанскім райвыканкаме.

Спачатку не разумела, чаму не адказваюць на пытанні ці ўзгадняюць гэтыя каментары некалькі дзён. Такое кропкава ёсць і ў спорце, але часцей за ўсё табе адкрыта і хутка адказваюць. А потым зразумела, што гэта сістэма, дзе людзі баяцца браць адказнасць на сябе. Вось і ўсё. Даходзіла да таго, што ў парку, калі сёлета ўскладалі кветкі да Стэлы 9 мая, да мяне падыходзіла работніца райвыканкама і пыталася, ці ўзгадніла я фотаздымку. Аднойчы мне трэба было даведацца, хто і калі косіць траву ў маладзечанскіх дварах – званіла па розных службах некалькі дзён, давалі нумары, па якіх не адказвалі ці ўвогуле былі заблакаваныя.

І яшчэ першы час на новай рабоце вельмі не хапала баскетбола. У чэрвені 2019 года прайшоў чэмпіянат Еўропы па баскетболе, які я прапусціла. Да гэтага больш за дзесяць год глядзела ўсе гульні Еўрабаскетаў, а вясной – нацыянальны чэмпіянат ЗША па баскетболе сярод студэнтаў. Цяпер гэтыя мерапрыемствы праходзяць міма мяне.

### Праца на пратэстах

Праца на пратэстах пачалася яшчэ ў чэрвені. Тады ў Маладзечне прайшла першая акцыя салідарнасці пасля затрымання Віктара Бабарыкі і яго сына. Шчыра кажучы, не ведала, чаго чакаць. Перад выхадам запісала на руцэ тэлефон юрыста, гэта было на выпадак затрымання. Усё было спакойна да моманту перакрыцця дарогі міліцыяй, з'яўлення АМАПа. Бачыла затрыманне **Міколы Алейніка**, была ў двух метрах ад сутычкі, калі амапавец дастаў пісталет. Гэта быў першы досвед працы на акцыях. А пасля ўразіў суд над Алейнікам, калі, на маю думку, хлопцу далі суткі за грамадзянскую пазіцыю, ды і стан Міколы пасля трох дзён у ізалятары.

Асабіста мне не страшна было працаваць на пратэстах. Нават не страшна было, калі вайсковец замахваўся дубінкай на мяне. Ці калі мы з калегай былі ў эпіцэнтры збіцця амапаўцамі людзей у Лебедзеве. Вельмі пераживала за фотаапарат, таму што чула гісторыі журналістаў з Мінска, як ім білі тэхніку. Калі б такое здарылася са мной, то я не змагла б фіксаваць гісторыю ўсяго, што адбывалася на пратэстах у Маладзечне.

Пачуццё страху першы раз адчула, калі ў кастрычніку чакала перад акцыяй калегу. Я прыехала з родных Мёраў, дзе адпачывала некалькі дзён. Чакаю калегу на плошчы, бачу міліцыянераў у балаклавах, і мяне пачынае паглынаць такі нечалавечы жах. Тады ў беларускіх судах ужо давалі прыгаворы з рэальнымі тэрмінамі за гвалт з амапаўцаў. А справы па гвалце з боку сілавікоў нават не адкрывалі. Вось тады на плошчы мне чамусьці стала вельмі страшна, што да мяне падскочыць міліцыянер у балаклаве, а на судзе будзе казаць, што я крычала лозунгі і гэтак далей. Страшна за тое, што ты ніяк сябе не можаш абараніць і асудзіць цябе могуць ні за што.

Гэты год быў нетыповым не толькі ў плане пратэстаў, але і з-за каронавіруса. Напрыканцы сакавіка наша рэдакцыя пачала працаваць на ўдалёнцы, вярнуліся ў офіс толькі ў ліпені. Было складана, таму што не хапала камунікацыі, размоў з калегамі, жартаў.

### Як паўплываў прыход у журналістыку

Найбольш паўплываў прыход у «РГ», чым у саму журналістыку. Калі ты варышся ў спартыўнай журналістыцы, то кола інтарэсаў замыкаецца на навінах з нашых і замежных СМІ. Першыя месяцы ў «Рэгіянальнай газеце» было вельмі складана, таму што за дзень праходзіць вельмі шмат навін пра ўсё – палітыку, адукацыю, ахову здароўя. Я прыходзіла дадому і зусім не хацелася сядзець у інтэрнэце, у сацыяльных сетках. Патрэба ў гэтым знікла.

Ноччу заўсёды ставіла тэлефон на бязгучны рэжым, а цяпер – не. Нешта можа здарыцца, трэба заўсёды быць на сувязі. Цяпер у мяне заўсёды з сабой журналісцкае пасведчанне – каб паказаць супрацоўніку і на месцы прасіць каментар, пашпарт – каб маглі высветліць маю асобу без паездкі ў РАУС, і спампаваная карта рэгіёна ў тэлефоне, каб арыентавацца без інтэрнэта.

**Эмілія ХВОЯ.**



Сойка на кармушцы.

# Што сыпаць птушкам у кармушку?

**Не ўсякая ежа карысная птушкам. Як зрабіць здаровае і разнастайнае меню для крылатых гасцей, каб на кармушку прыляталі розныя віды птушак?**

Раіць грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ).

Узімку дні кароткія, таму ў вераб'іных менш часу на пошукі корму. А з-пад снегу і лёду яго ўвогуле бывае не дастаць.

**Каб дробным птушкам было лягчэй перажыць маразы, можна павесіць за акном або на дрэве кармушку. Назіраць за птушкамі на ёй – асабліва з дзеткамі – вялікае задавальненне.**

### Дзе ўзяць кармушку?

Кармушку можна набыць у розных крамах, у тым ліку будаўнічых. А можна праявіць творчасць і зрабіць яе сваімі рукамі з дрэва, фанеры, пластыкавай бутэлькі або нават з шышак.

Важна, каб дно кармушкі было з адтулінамі, адкуль будзе выцякаць лішняя вільгаць. І не забывайце рэгулярна напаўняць і чысціць птушыную сталоўку.

### Дзе павесіць кармушку?

Вешаць кармушку трэба ў зацішным месцы, каб птушкам не даводзілася лішні раз атрымліваць стрэс.

Калі вы жывяце на высокім паверсе, лепш не вешаць кармушку за акном: птушкам давядзецца траціць занадта шмат энергіі, каб даляцець да яе. Акрамя таго, у выпадку небяспекі з боку драпежнікаў ім не будзе дзе хутка схавацца. А драпежныя птушкі ўзімку ў гарадах – зусім не рэдкасць.

### Што класці ў кармушку?

Самы ўніверсальны корм для птушак – несалёныя нясмажаныя семкі сланечніку. Смачна, карысна, даступна. Крупы такой папулярнасцю ў сініц не карыстаюцца.

**Разнастаіць меню можна насеннем рапсу, гарбузовымі семкамі, арахісам, кавалачкамі яблыка ды ягадамі. Калі хочаце зрабіць асаблівы падарунак для сініц і дзятлаў, прычапіце на галінку кавалак несалёнага нясмажанага сала.**

Можна змяшаць растоплены свіны тлушч з насеннем рапсу і арахісам і запоўніць гэтай сумессю шышкі.

### Якая ежа шкодная птушкам?

Ні ў якім разе не карміце птушак рэшткамі са свайго стала. Не кладзіце нічога смажанага, печанага і салёнага ў кармушку. Хлеб як чорны, так і белы, як свежы, так і сухі – непрыдатная ежа для птушак.

### Хто можа прыляцець на кармушку?

Нават у горадзе, акрамя дамавых і палявых вераб'ёў, сініц і вялікіх сініц, да вас на кармушку могуць завітаць зелянушкі, таўстадзюбы, попаўзні, гілі, дзятлы, сойкі, чыжы ды іншыя крылатыя госці.

### Ці трэба падкормліваць качак і лебедзяў?

У вадаплаўных птушак ёсць слой тлушчу, які не дае ім замерзнуць.

**Таму частаваць іх варта толькі ў вялікія маразы, калі тэмпература трымаецца на ўзроўні ніжэй за 15 градусаў марозу.**

Лебедзям і качкам можна прапанаваць аўсяныя шматкі або крыху адваранае збожжа ці крупы, але не трэба даваць ім хлеб і батон: яны даюць адчуванне сытасці на кароткі час, але не маюць патрэбных птушкам карысных рэчываў.

### Ці можна назіраць за птушкамі на кармушцы анлайн?

Кожную зіму сайт «Птушкі штодня» ладзіць стрым з птушыных сталовак у Белавежскай пушчы. У гэтым сезоне назіраць за кармушкай можна нават уначы. Птушак у цёмны час няма, але ёсць шанцы пабачыць звяроў. Заходзьце па адрасе birdwatch.by/stalouka-2021.

Удзень на кармушку прылятаюць сойкі, сініцы і чорны дрозд, а ўначы паласавацца семкамі завітваюць мышы і палёўкі. Колькасць відаў паступова будзе павялічвацца. Мяркуецца, што за сезон на кармушцы засвецяцца не менш за два дзясяткі відаў птушак.

### Далучайцеся да акцыі «Птушкі ля кармушкі»!

Штогод у трэція выхадныя студзеня АПБ ладзіць акцыю «Птушкі ля кармушкі». Калі ў вас ёсць дзеткі ці ўнукі, можаце іх далучыць да народнай навукі.

**16-17 студзеня 2021 года трэба цягам гадзіны паназіраць за сваёй кармушкай і падлічыць птушак, якія яе наведалі, а потым даслаць свае вынікі ў АПБ.**

Каб было каго лічыць, кармушкі трэба павесіць загадзя. Падрабязнасці будуць апублікаваныя на сайце ptushki.org у студзені.

Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) – найбуйнейшая прыродаахоўная грамадская арганізацыя Беларусі і ад 2005 года – нацыянальны партнёр глабальнай прыродаахоўнай асацыяцыі BirdLife International, у якую ўваходзяць арганізацыі са 121 краіны. АПБ – гэта тысячы сяброў і валанцёраў і больш за 30 тысяч прыхільнікаў, 100 школьных клубаў і 14 мясцовых аддзяленняў па ўсёй краіне. Арганізацыя працуе дзеля захавання біяразнастайнасці і далучэння насельніцтва да актыўнай аховы прыроды.

**Паводле паведамлення АПБ.**

# Трэнеры дзіцяча-юнацкіх школ рэгіёна падпісваюць праўладны ліст спартсменаў

**Трэнеры дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ з рэгіёна падпісалі праўладны ліст спартсменаў. «Рэгіянальная газета» расказвае, што гэта за ліст і чаму трэнеры яго падпісваюць.**



У Маладзечне менш за ўсё спартсменаў, якія падпісалі праўладны ліст, чым у астатніх гарадах рэгіёна.

### Што за праўладны ліст спартсменаў

Праўладны ліст спартсменаў з'явіўся напрыканцы лістапада ў папяровай версіі «Спартыўнай Панарамы», якую выдае Мінспорту. Спачатку пад ім падпісаліся ўсяго пяць спартсменаў. 29 лістапада намеснік міністра спорту **Аляксандр Бараўля** заяўляў, што ліст падпісалі больш за дзве тысячы чалавек. Па стане на 15 снежня – больш за чатыры тысячы.

Па інфармацыі спартыўнага выдання «Трыбуна», аўтарам праўладнага ліста з'яўляецца **Уладзімір Пехцераў** – галоўны рэдактар «Спартыўнай Панарамы». Ліст быў напісаны на пачатку лістапада, месяц праходзіў узгадненне ў Міністэрстве спорту і Нацыянальным алімпійскім камітэце.

**У пачатку снежня з'явіўся сайт, на якім публікуюцца імёны тых, хто падпісаў ліст. «Трыбуна» гутарыла са спартсменамі і трэнерамі – некаторыя казалі, што не падпісвалі ліст. Тады імёны гэтых людзей знікалі з сайта.**

Сярод тых, хто падпісаў ліст, ёсць смаргонская баскетбалістка, якая выступае за нацыянальную зборную Беларусі, – **Юлія Рыцікава**.

Гэты ліст з'явіўся ў адказ на ліст ад Свабоднага аб'яднання спартсменаў. Беларускія спартсмены пасля гвалту ў жніўні пасля прэзідэнцкіх выбараў выступілі супраць насілля і заклікалі правесці новыя выбары. Пасля падпісання гэтага ліста спартсменаў пачалі звальняць. Напрыклад, засталіся без працы самбіст **Сцяпан Папоў**, фрыстайлістка **Аляксандра Раманоўская**, трэнер зборнай па фехтаванні **Аляксандр Мікалайчук** ды іншыя.

### Што патрабуюць спартсмены ў праўладным лісце

У ім шмат кажацца пра тое, што гэты ліст ад сапраўдных беларускіх спартсменаў і дзеячаў. Па словах аўтара ліста, спартсмены павінны займацца толькі спортам і не лезці ў палітычныя справы.

– Наш доўг не выступаць з палітычнымі заклікамі, а перамагаць на спартыўных арэнах, цешачы сваімі дасягненнямі нашых заўзятараў, – гаворыцца ў лісце.

У ім адзначаецца, што спартсмены не хочуць змяняць дзяржаўную сімволіку, а потым ідзе пералік колькасці медалёў і тытулаў беларускіх атлетаў на міжнародных турнірах.

У лісце сцвярджаецца, што «адкрытыя звароты псеўдаспартыўных структур, якія знаходзяцца за мяжой, носяць дэструктыўны характар і зневажаюць спартыўны і алімпійскі рух». Аўтары ліста патрабуюць спыніць настойлівыя заклікі да публічнага выказвання палітычных поглядаў.

Ліст заканчваецца тым, што трэба жыць у міры, а спартсмены хочуць удзельнічаць у міжнародных спартыўных стартах.

### Хто падпісаўся пад праўладным лістом з рэгіёна

Сярод тых, хто падпісаўся, – трэнеры і кіраўніцтва дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ. Больш за ўсіх адзначылася Валожынская ДЮСШ. Там пад праўладным лістом падпісаўся амаль увесь трэнерскі склад разам з дырэктарам школы **Дзмітрыем Ажарэльевым**. Гэта трэнеры па настольным тэнісе **Васіль Ажарэльеў** і **Дзмітры Пазднякоў**, па дзюдо – **Вадзім Калашнікаў** і **Віктар Мацкевіч**, па лёгкай атлетыцы – **Аляксандр Чарняўскі** і **Дзмітры Цітоў**, а таксама баскетбольны трэнер **Уладзіслаў Галоўчык**.

Тое ж самае зрабілі ў Астравецкай ДЮСШ. Там таксама падпісаліся дырэктар **Дзмітры Сакалоўскі**, чатыры трэнеры па лёгкай атлетыцы (**Андрэй Блашкевіч**, **Аляксандр Дзенісенка**, **Міхаіл Саўчук**, **Ірына Спас**). Падпісаліся і трэнер па вольнай барацьбе **Ігар Гануліч**, і трэнер па гандболе **Святлана Раманоўская**.

Трэнеры па баскетболе са Смаргонскай СДЮШАР таксама падпісалі праўладны ліст спартсменаў. Гэта зрабіла амаль палова трэнераў з аддзялення па баскетболе: **Жанна Грэхава**, **Таццяна Рапацэвіч**, **Дыяна Гульбіцкая**, **Дыяна Талочка**, **Валер Юрчанка**, бацька Юліі Рыцікавай **Сяргей Дурэйка**. Да іх далучыліся трэнеры па дзюдо **Віктар Вянглоўскі**, **Юры Гулецкі**, **Сяргей Шышкоў** і трэнер па цяжкай атлетыцы **Станіслаў Красоўскі**.

З Вілейскай ДЮСШ ёсць імёны трэнера па плаванні **Яўгеніі Асмалоўскай**, трэнераў па скачках на батуце **Алы Сокал** і **Святланы Бяганскай**, трэнера па акрабатыцы **Таццяны Літвіновіч**. Дарэчы, вядомы батутыст з Вілейкі **Іван Літвіновіч** таксама падпісаўся пад праўладным лістом.

У ашмянскай ДЮСШ таксама ёсць людзі, якія падпісаліся: **Віктар Рамулевіч** (трэнер па гандболе), **Вера Мальцава** (трэнер па гандболе) і **Сяргей Жук** (трэнер па дзюдо).

Дарэчы, Віктар Рамулевіч быў трэнерам вядомага беларускага гандбаліста **Андрэя Барбашынскага**. Барбашынскі таксама падпісаў праўладны ліст. Рамулевіч расказаў ашмянскай раёнцы, чаму падпісаў ліст:

– Я заўсёды быў прыхільнікам палітыкі Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, таму з упэўненасцю падпісаў гэты дакумент. Я лічу, што спартсмены павінны займацца іншымі пытаннямі і вырашаць справы ў сваёй сферы, якая павінна ісці паралельна палітыцы, якая не перасякаецца з ёй.

Менш за ўсё падпісваліся ў Маладзечне. Сярод чатырох дзіцяча-юнацкіх школ пад праўладным лістом падпісаліся толькі трэнеры па баскетболе з «Алімпіка-2011»: **Уладзімір Кляміцкі** і **Людміла Цыбульская**.

### А што хочуць спартсмены са Свабоднага аб'яднання?

Праўладны ліст спартсменаў выступае альтэрнатывай для ліста Свабоднага аб'яднання спартсменаў. Тыя, хто падпісаў ліст Свабоднага аб'яднання, катэгарычна асуджаюць шматлікія факты фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў, праявы гвалту з боку сілавых структур да мірных пратэстоўцаў.

У гэтых спартсменаў усяго шэсць патрабаванняў:

**1.** Прызнаць прэзідэнцкія выбары несапраўднымі з прычыны шматлікіх фактаў фальсіфікацый і ціску на выбарчыя камісіі і правесці паўторныя выбары Прэзідэнта Беларусі.

**2.** Вызваліць усіх грамадзян, затрыманых падчас дэманстрацый.

**3.** Вызваліць і рэабілітаваць усіх палітычных зняволеных.

**4.** Спыніць супрацьпраўную дзейнасць супрацоўнікаў праваахоўных органаў і правесці праверкі законнасці іх дзеянняў, пачынаючы з моманту збору подпісаў для вылучэння ў кандыдаты ў прэзідэнты.

**5.** Выявіць і пакараць вінаватых у збіцці і зверскіх здзеках з грамадзян, затрыманых падчас мірных дэманстрацый. Кіраўнікі сілавых структур, адказныя за гвалт, павінны падаць у адстаўку.

**6.** Аказаць паўнавартасную медыцынскую, псіхалагічную, прававую і матэрыяльную дапамогу ўсім пацярпелым ад неправамерных дзеянняў прадстаўнікоў сілавых структур.

У наступным нумары «Рэгіянальнай газеты» чытайце пра тых, хто падпісаў ліст ад Свабоднага аб'яднання спартсменаў.



Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. Расплаўленая ці застылая маса розных прымесяў, попелу і флюсаў, якая з'яўляецца пабочным прадуктам металургічнай вытворчасці.
4. Група сабак, ваўкоў.
5. Падоўжная скрынка, футарал для ручак, алоўкаў, гумак.
6. Спагадлівасць, чуласць у адносінах да людзей.
8. Анатоль Вярцінскі: «Ёсць звон ручая, ёсць свежасць рос, Ёсць веліч вяршыні горнай. І ёсць яшчэ адно з дзівос, Гэта – жаночая …».
9. Імя Царэўны-жабы.
13. Паміж чырвоным і зялёным.
14. Што ў перакладзе са старажытнагрэчаскай значыць слова, ад якога паходзіць найменне «капуста».
16. Каб не дзірка ў роце, хадзіў бы ў …
20. Імя антаганіста хана Канчака з твора, вядомага балетным фрагментам «Палавецкія пляскі».
22. Мнагаструнны шчыпковы музычны інструмент славянскіх народаў.
23. Упершыню на тэлебачанні яна з'явілася ў 1939 годзе.
24. Добра зразумеўшы, запомніць, вывучыць.
27. Квадратныя сцягі сустракаюцца рэдка. Сярод сучасных сцягоў краін такі ёсць у Швейцарыі. Назавіце другую краіну з квадратным сцягам.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Самая распаўсюджаная ядомая рыба ў свеце.
2. Краіна, дзе жыве больш альбіносаў, чым у любой іншай.
6. Лепшы сябар Чыпа.
7. Харавство, прыгажосць.
10. Найбольш гэтых жывёл у Аўстраліі. Яны прыносяць ад 4 да 6 кілаграмаў карысці за год, не ўлічваючы мяса.
11. Страва, якая стала цэнтрам аднаго з апавяданняў Змітрака Бядулі.
12. Важная частка ўзнагароджвання лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі – банкет. Другі тост падчас яго заўсёды за Альфрэда Нобеля. А хто абавязкова павінны быць героем першага тоста?
15. Назва адной са скульптур з каменя, усталяванай сёлета ў Мядзеле.
17. Для таго, каб перапісвацца пад вадой, Жак Іў Кусто выкарыстоўваў аловак для грыму і белую яе.
18. Гэты фрукт узарвецца, калі пагрэць у мікрахвалеўцы.
19. Рыгор Барадулін: У абшары навакольным Над папарам, лугам, полем … тчэ мяккі змрок. Кожную сняжынку тую Кружыць, туліць і цалуе Весялун-вятрок.
21. Дзед Вялікага князя Літоўскага і Караля Польскага Аляксандра Казіміравіча, што правіў да 1506 года.
25. За апошнія 300 год на Зямлі іх знішчылі дзве трэці.
26. У збяднелага шляхціча з … Ні гарэлкі няма для сугрэву, Ні гуркоў, ні маслін, Ані іншых раслін, – Акрамя геральдычнага дрэва.
28. Устаноўлены або ўсталяваны парадак, спосаб жыцця, побыту.

## Адказы на крыжаванку з №50

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Шпалеры. 4. Момант. 5. Мроі. 7. Рызыка. 8. Рэбус. 9. Засаўка. 11. Харызма. 13. Разлік. 15. Хлеб. 16. Хвошч. 18. Зорка. 20. Лётчык. 22. Сцяг. 23. Мыла. 24. Мянушка. 25. Штраф.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Разгон. 3. Шытво. 6. Хіжы. 8. Разнарадка. 10. Тэстамент. 12. Хмызняк. 14. Шэрл. 17. Мірыць. 19. Збочыць. 21. Дарозе. 23. Мікстура. 26. Радыё. 27. Шчыт.

● ГАРАСКОП НА 18-24 СНЕЖНЯ

## Як вам злавіць калядны настрой



**АВЕН.** Для вас навагоднія святы і ўся калядная атмасфера прыносяць задавальненне. У гэты святочны перыяд вам асабліва хочацца пабыць дома, прыгатаваць новыя стравы. І схадзіць у госці да блізкіх.

**ЦЯЛЕЦ.** Для вас святочны перыяд – выдатная магчымасць, каб зладзіць новае падарожжа. Вы гатовыя эксперыментаваць і зрабіць у навагодні перыяд тое, чаго не рабілі раней. Магчыма, найлепшым рашэннем будзе аграсядзіба з зімовымі відамі спорту.

**БЛІЗНЯТЫ.** Спачатку вам будзе падавацца, што вы хочаце толькі адпачываць, але пасля аднаго лянівага дня настрой зменіцца. І вам вельмі захочацца пачуццёвых прыгод і рамантычных спатканняў. І лепш, каб іх арганізавалі вы самі.

**РАК.** Усё, што вам трэба, – гэта ўвага і клопат людзей, якія дарагія вашаму сэрцу. А калядныя цуды вы ствараеце самі лепш за любога Дзеда Мароза. Толькі пастарайцеся знайсці як мага больш часу на тое, каб па-сапраўднаму адпачыць.

**ЛЕЎ.** Вам вельмі неабходныя сустрэчы і гутаркі з людзьмі, прычым як з роднымі, так і з сябрамі, і з калегамі. Калі вы баіцеся жывых сустрэч, часцей тэлефануйце і ўключайце відэа падчас гутарак праз інтэрнэт.

**ДЗЕВА.** Вы будзеце вельмі цаніць магчымасць шмат часу правесці дома і заняцца любімымі справамі. Каб адчуваць сябе максімальна камфортна, упрыгожце жыллё менавіта так, якім вы б хацелі яго бачыць.

**ШАЛІ.** Нішто так не створыць вам калядны настрой, як падарункі. Прычым вы будзеце рады як прадметам, якія вам падораць дарагія людзі, але і цікавым імпрэзам і сустрэчам.

**СКАРПІЁН.** Вам няцяжка будзе злавіць святочны настрой. Галоўнае – выбраць падарунак, які вы хочаце атрымаць пад ёлкай і сказаць, што вы хочаце менавіта гэта. Тады вы будзеце ведаць, што свята вас не расчаруе.

**СТРАЛЕЦ.** Лепш за ўсё вы будзеце сябе адчуваць у кампаніі, дзе будуць і новыя людзі. Менавіта знаёмствы дадуць вам тут атмасферу цуда, якое вам хочацца адчуць.

**КАЗЯРОГ.** Больш за ўсё вас будзе радаваць уласны знешні выгляд. Падумайце пра адзенне і вобраз, у якім будзеце прыемна сябе адчуваць. Менавіта з сябе пачнецца ваш навагодні цуд.

**ВАДАЛЕЙ.** Калядны настрой у вас з'явіцца разам з рамантычнымі падзеямі. Не губляйцеся і будзьце актыўнымі ў тым, што для вас важна. Памятайце, што сапраўдныя цуды ідуць ад шчырага сэрца.

**РЫБЫ.** Вам важна, каб у калядны час вакол былі родныя людзі. І нішто так не ўздыме настрой, як выбіраць падарункі для кожнага з іх.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 3 | | | | 7 |
| | 1 | | 5 | 8 | 7 | | | |
| | 9 | 7 | | 2 | | 8 | | |
| | | | 8 | | 1 | 4 | | |
| 1 | 4 | | | | | | 6 | 8 |
| | 2 | 9 | 3 | | 4 | | | |
| | 6 | | | 5 | 3 | 2 | | |
| 9 | | | | | | 5 | | |
| | 3 | | | | | | | 6 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by




## На цэнтральнай плошчы Вілейкі з'явіўся зіхоткі бык

ВІЛЕЙКА

**Сімвал надыходзячага года – вялізны зіхоткі бык – з'явіўся на мінулым тыдні на цэнтральнай плошчы ў Вілейцы.**

У тэставым рэжыме ілюмінацыю ў горадзе запальвалі ў пятніцу, 11 снежня. 12 снежня таксама падключалі і правяралі.

Зборную ялінку сабралі на каркас яшчэ на пачатку снежня. Святочнае дрэва – новае. Яго набылі летась. Каля ялінкі ўсталявалі зіхоткую карэту з Дзедам Марозам і Снягуркай, сімвала года – Быка – на санях, упрыгожылі гірляндамі дрэвы на плошчы.

Таксама сваю тэрыторыю ўпрыгожылі некаторыя прадпрыемствы і ўстановы адукацыі ў Вілейцы.

**Вілейскі райвыканкам аб'явіў конкурс на лепшае ўпрыгожанне будынка ў горадзе і раёне.**

Нагадаем, што традыцыйнае шэсце Дзядоў Марозаў і Снягурак у горадзе адмянілі з-за каронавіруса. Аднак абяцаюць канцэрт на плошчы ў навагоднюю ноч.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Так выглядае цэнтральная плошча ў Вілейцы.

**Чытайце праз тыдзень:**

- **Пагутарылі з маладзечанкай, якая жыве ў Чэхіі і пасля прэзідэнцкіх выбараў дапамагае пацярпелым ад гвалту сілавікоў.**

## 19 снежня, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 3-4 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -21,2°С у 1981 годзе
Максімальная тэмпература +9,5°С у 2014 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,2 мм у 1987 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Якія падзеі былі галоўныя для вас у 2020 годзе?



**Алена:**
– Выбары нашага прэзідэнта. У нас змены ідуць да лепшага. Я рада гэтаму. Я заўсёды паважала нашага прэзідэнта і буду паважаць, заўсёды буду з ім.



**Сяргей:**
– Гэты год быў насычаны, усё запомнілася. Як пачалося ўсё з каронавіруса, а асабліва – выбары. Увогуле, год быў дрэнным. Спадзяюся, што наступны будзе лепшы.



**Рыгор:**
– Каронавірус. Цяпер прыходзіцца хадзіць у масцы. Больш нічога не запомніў, бо жыву ў вёсцы, а не ў горадзе.



**Таццяна:**
– Нічога такога. Запомнілася, што непарадак у нашай краіне. Некаторым няма чым заняцца, займаюцца не тым, чым трэба. Ездзілі б на дачу, грыбы збіралі.



**Сяргей:**
– Запомнілася больш за ўсё эпідэмія каронавірусу і жніўеньскія падзеі пасля выбараў. Добрае было, але гэта вельмі асабістае.



**Раймонд:**
– Я сам з Латвіі. Напэўна, COVID-19, усе праблемы і абмежаванні. І яшчэ выбары амерыканскага прэзідэнта – гэтым пікам махлярства ва ўсім свеце за апошнія тры гады існавання капіталізму.



**Віталь:**
– Каронавірус, забастоўкі. Больш нічога не запомнілася.

**Падрыхтаваў Аляксей КАСТОЎСКІ.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№51 (1338) 18.12.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 2100. Падпісана ў друк у 9.00 17.12.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама), **53-78-05** (журналісты), **53-78-06** (факс), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.**
Web: **https://rh.by.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.